


# DISTRICTUS

# ПАВЕТ



ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ

№ 2 (15) ЛЮТЫ 2003 г.


## ВЕСТКІ

12 студзеня ў Браслаўскім касцёле Нараджэння Маці Божай адбылося выступленне хора Віцебскай каталіцкай катэдры. Гучалі даўнія і сучасныя беларускія, ці ў перакладзе на беларускую мову, калядныя песні. Хор, удзельнікі якога прадэманстравалі высокі творчы ўзровень, быў горача прывітаны мясцовымі парафіянамі.



25-26 студзеня ў Музеі традыцыйнай культуры Васіль і Яўгенія Грыні з Заслаўля прадстаўлялі беларускую батлейку. Традыцыйныя для батлейкі сюжэты, агучаныя Яўгеніяй, суправаджаліся найгрышам Васіля на дудзе, парнай дудцы і іншых інструментах. Адбылося некалькі прадстаўленняў і кожны раз выставачная зала музея была запоўнена. Батлейка ў Браславе першы раз. Грыні завіталі ў Браслаў дзякуючы сяброўству з мясцовымі музейшчыкамі



Напрыканцы студзеня выйшаў чарговы нумар газеты "Школьны час", што выдаецца вучнямі і настаўнікамі невялічкай школы ў вёсцы Баруны (15 км ад Браслава). У школе займаецца 53 вучні. У газеце - навіны пра школьнае жыццё, рознага роду анекдатычныя гісторыі, вытрымкі са школьных сачыненняў, паэзія юных творцаў, цікавая інфармацыя з іншых выданняў. Газета выходзіць ужо больш за паўтары гады. Выпушчана 11 нумароў.

## МЯЧЭЦЬ У ВІДЗАХ



На першай старонцы нашага выдання мы змяшчаем унікальны фотаздымак, зроблены ў 30-я гады XX ст. Гэта здымак Відзскай мячэці. Мячэці з'яўляюцца рэдкасцю для Беларусі. Матэрыялы пра Відзскую мусульманскую святыню можна сустрэць у розных выданнях, але ніводнае з іх не змяшчала яе знешняга выгляду. Прадстаўлены фотаздымак друкуецца ўпершыню. Яго арыгінал зберагаецца ў Аддзеле рукапісаў Нацыянальнай бібліятэкі ў Варшаве сярод падборкі фотаздымкаў да рукапісу ўспамінаў былога браслаўскага старосты З.Янушкевіча (Rkp BN, akc. 11199, t. 2, f. 58). Ён быў выяўлены супрацоўнікамі музея. Фотакопія атрымана дзякуючы садзейнічанню польскай даследчыцы М.Каламайскай-Саед з Інстытута мастацтва Польскай Акадэміі Навук. На жаль, ужо не было магчымасці ўключыць фотаздымак ні ў кнігу «Памяць», ні ў выданне па архітэктуры Браслаўшчыны.

Каштоўнасць здымка відавочная, бо дзякуючы яму мы можам меркаваць аб знешнім выглядзе мячэці. Гэта быў трохнефавы драўляны будынак зрубнай канструкцыі. Галоўным архітэктурным акцэнтам з'яўлялася высокая чатырохярусная вежа, якая прымыкала да асноўнага аб'ёму. Вежа мела ступеньчатую канструкцыю і завяршалася шпілем з паўмесяцам. Уваход у храм знаходзіўся на бакавым фасадзе, ён афармляўся навесам на дзвюх калонах.

Мячэць узведзена ў 1934 г. на месцы святыні, знішчанай у гады першай сусветнай вайны. Мячэць служыла для патрэб мусульман-татар Відзаў (у канцы XIX ст. іх налічвалася каля 150 чалавек), а таксам іншых паселішчаў

**(працяг на с.2)**

# ВЕСТКІ

1 лютага ў Цэнтры дзіцячай творчасці праходзіў традыцыйны штогадовы раённы агляд-конкурс школьных лялечных тэатраў. Удзельнічалі 7 калектываў, у рэпертуары – класічныя беларускія і рускія народныя казкі. Вучні Мількаўскай школы прадстаўлялі беларускую батлейку. Пераможцам стаў калектыў Слабодкаўскай школы з інсцэніроўкай казкі "Як воўк у мужыка жыў".



У рамках міжраённага шахматнага турніра 26 студзеня ў памяшканні Цэнтра дзіцячай творчасці адбылася чацвёртая сустрэча аматараў шахмат Браслаўскага і Пастаўскага раёнаў. Пераканаўчую перамогу атрымалі шахматысты Браслаўшчыны. Агульны лік сустрэч 2:2. Наступная сустрэча будзе праведзена летам.



2 лютага, у нядзелю, у выставачнай зале Музея традыцыйнай культуры адбылося адкрыццё выставы віцебскіх мастакоў Эдуарда Галустава і Генадзя Гаварцова "Старонкі нататніка". Прадстаўлена пераважна графіка, а таксама жывапісныя працы, габелены. На сустрэчу з наведвальнікамі змог прыехаць Эдуард Галустаў.

Мастак працуе ў адной з сярэдніх школ Віцебска. З 1991 года прыязджае ў Браслаў, дзе мае шмат сяброў. Браў удзел у аднаўленні традыцыі калядавання ў пачатку 90-х гадоў, у арганізацыі гуманітарных летнікаў Браслаўскага краязнаўчага таварыства, у пленерах, якія ладзіліся Браслаўскім музеем. З'яўляецца сябрам Браслаўскага краязнаўчага таварыства імя О.Гедэмана.

Падчас адкрыцця выставы Э.Галустаў прадставіў свайго сябра мастака Генадзя Гаварцова.

Імпрэзу аздобілі песні ў выкананні браслаўскіх школьнікаў і самаго мастака, для якога музыка – другое захапленне. Э.Галустаў – удзельнік хора Віцебскага каталіцкага катэдральнага хора, які ў студзені ладзіў канцэрт у Браслаўскім касцёле.



Новаалякcандраўскага, Дзісенскага, Свянцянскага паветаў. Пасля віхурных падзей вайны і рэвалюцыі колькасць вернікаў-мусульман зменшылася (1923 г. – 94 чалавекі). Жыццё абшчыны прыходзілася арганізоўваць нанава: храм не ацалеў, кнігі і пячаткі былі адвезены ў Сімферопаль (да 1-й сусветнай вайны Відзскі прыход падпарадкоўваўся Крымскаму муфцію). 1 ліпеня 1923 г. у Відзах адбыўся першы арганізацыйны сход відзскіх татар. Сход абраў мулой Аляксандра Радкевіча, які займаў гэту пасаду і да вайны. Было вырашана аднавіць мячэць. Гарадскі камітэт па аднаўленню святыні ўзначаліў мула. Кожны з прысутных абяцаў дапамагаць справе і фінансава і сваім удзелам у працах. Улічваючы, што самі вернікі значна пацярпелі ад вайны, сход звярнуўся да ўлад з просьбай аказаць дапамогу. Рэалізаваць задуманае ўдалося толькі праз 11 гадоў. Мячэць была ўрачыста адчынена 15 чэрвеня 1934 г. Прысутнічалі вернікі Відз і наваколля, прадстаўнікі ўладаў. Першую службу правёў муфцій Рэчы Паспалітай Якуб Шынкевіч (пасля аднаўлення дзяржаўнасці Польшчы, татары краіны абралі асобнага муфція, які меў рэзідэнцыю ў Вільні. У 1925 г. у Польшчы налічвалася 19 татарскіх парафій, у т.л. у Віленскім ваяводстве – 7, Навагрудскім – 9). Як сведчаць старажылы, аздабленне інтэр'ера мячэці было вельмі сціплым. Адметнай дэталлю любой мячэці была абсалютная чысціня. Побач з Відзскай мячэццю знаходзіўся калодзеж, вада якога вылучалася асаблівай празрыстасцю і якасцю. Святыня служыла людзям зусім мала, па вайне мячэць зачынілі і выкарыстоўвалі пад розныя гаспадарчыя патрэбы, а потым увогуле разабралі.

Пасля таго як быў атрыманы здымак Відзскай мячэці, музей актывізаваў пошук матэрыялаў, якія дазволілі б адказаць на пытанні: калі ў Відзах з'явілася першая мусульманская святыня, як яна выглядала. Траплялісе звесткі што прыход у Відзах быў арганізаваны ў 1816 г., аднак пэўны час свайго храму вернікі не мелі. У рапарце Браслаўскага земскага суда да губернскіх уладаў за 1829 г. адзначалася, што "*в здешнем уезде татарских мечетей не находится*". Настаўнік М.Посах у кніжцы "Видзы"(1895 г.) пісаў, што мячэць узведзена ў 1857 г. і што "*па знешняму выгляду мячэць нічым не адрозніваецца ад хрысціянскага храма, толькі на мінарэце ў выглядзе званіцы замест крыжа ўстаноўлены паўмесяц*".



У апошнія гады ў Каўнаскім акружным архіве пашчасціла адшукаць справу, якая дазваляе пашырыць нашы ўяўленні аб Відзскай мусульманскай святыні (F. 473, воп. 1, спр. 2789). Справа датычыцца ўзгаднення праекта храма ў розных інстанцыях. З яе вынікае, што ініцыятарам узвядзення святыні быў Якуб сын Мустафы Якубоўскі, які, дарэчы, належаў да дваранскага саслоўя. Ён арганізаваў зварот прыхажан да Таўрычаскага (у Крыме) духоўнага праўлення с просьбай аб садзейнічанні ў будаўніцтве мячэці. Узнікла ініцыятыва недзе ўвосені 1860 г. Для Відз быў распрацаваны праект, які арыентаваўся на праект мячэці перад тым узведзенай у г.Акермане (сучасны г.Белгарад-Днястроўскі Адэскай вобл.). Улады пільна сачылі, каб праекты новых будынкаў мячэцей не адхіляліся ад узору зацверджанага вышэйшымі санкт-пецярбургскімі інстанцыямі ў 1844 г. З гэтай прычыны ў Відзскі праект давялося ўносіць шэраг зменаў. Сярод перапіскі па гэтаму пытанню, з большага не вельмі цікавай, трапіў аркуш з малюнкам фасада і планам мячэці. На жаль не ўдалося высветліць ці з'яўляецца гэты малюнак праектам Відзскай мячэці і да якой стадыі адносіцца. Можам толькі меркаваць, што пабудаваны драўляны мусульманскі храм выглядаў прыблізна так. Узводзілася мячэць пасля 1861 г.

З красавіка 1994 г. у Відзах зноў пачала дзейнасць мусульманская абшчына. Набажэнствы дагэтуль праводзяцца ў прыстасаваным памяшканні. Ці будзе ў Відзах новая, трэцяя па ліку мусульманская святыня? На гэта пытанне адкажа час.

**Кастусь Шыдлоўскі, навуковы супрацоўнік гістарычна-краязнаўчага музея**

*Да 150 гадовага юбілею С.Нарбута*

# НАРБУТ І ПАЖАРНАЯ СПРАВА

У той час, калі жыў Станіслаў Нарбут, пажары былі велізарным бедствам для жыхароў вёсак і мястэчак. Забудова ў гэтых паселішчах была пераважна драўлянай, стрэхі рабіліся з саломы ці са шчапы. У мястэчках хаты стаялі блізка адна каля адной і вельмі часта за некалькі гадзін пажар знішчаў значную частку паселішча. Пагарэльцы і іх суседзі нічога не маглі зрабіць супраць вогненнай стыхіі. У XIX - пачатку XX стст. вялікія пажары адбыліся ў такіх мястэчках Браслаўшчыны, як Відзы, Друя, Опса, Іказнь, Браслаў. У Браславе вялізны пажар адбыўся ў 1884 г., згарэла цэнтральная частка мястэчка. Адразу ж быў складзены план новай забудовы Браслава, які ўлічваў асноўныя супрацьпажарныя патрабаванні. Аднак план доўга блукаў па розных канцылярыях, а тым часам жыхары аднаўлялі свае сялібы на старых месцах. Такім чынам, Браслаў застаўся пажаранебяспечным паселішчам. Можа таму тут актыўна адгукнуліся на ініцыятыву ўладаў стварыць пажарную каманду. 27-га красавіка 1895 г. па запрашэнні мясцовага прыстава адбыўся сход жыхароў мястэчка, на якім разглядалася пытанне аб арганізацыі каманды. На сход прыйшлі прадстаўнікі інтэлігенцыі, мяшчане, некалькі сялян. Сярод удзельнікаў быў і вольнапрактыкуючы ўрач Станіслаў Нарбут. Прысутныя вырашылі неадкладна арганізаваць у Браславе добраахвотную пажарную каманду і прыступілі да яе фарміравання. У пажарную каманду запісалася 32 чалавекі, якія разбіліся на 3 групы: лазальшчыкаў, качальшчыкаў і ахавальнікаў. У кожную групу ўвайшло 8 чалавек сяброў, начальнік і памочнік. Групу лазаль-шчыкаў узначаліў браслаўскі сельскі ўрач Іван Базылевіч, групу качальшчыкаў — сын мясцовага мешчаніна Арон Дэйч. На чале групы ахавальнікаў стаў Станіслаў Нарбут. Як бачна, пры стварэнні каманды ён адыграў даволі прыкметную ролю. Дарэчы, Станіслаў Нарбут другім падпісаў пратакол аб стварэнні каманды. Узначаліў усю каманду Андрэй Аляксандраў, загадчык паштова-тэлеграфнага аддзялення. Фінансаваць арганізацыю бралася мясцовая яўрэйская грамада, бо яўрэі складалі пераважную большасць жыхароў мястэчка. На набыццё інвентара і іншыя расходы, звязаныя з заснаваннем каманды, грамада выдаткавала 500 рублёў. У 1896 г. Браслаўскі пажарны абоз налічваў два насосы (пераносны і на колавым ходзе), тры пажарныя бочкі са станкамі на колавых ходах, бочку без станка і хода. Быў таксама набыты дробны інвентар: багры, сякеры, вёдры, каскі і г.д. Для захавання ўсяго інвентара і рыштунку летам 1896 г. узвялі пажарную пуню памерамі $5^1/_3$ х 3 сажні. Будаўніцтва абышлося ў 150 рублёў.

Падрабязнасцей аб дзейнасці каманды адшукаць не ўдалося. Невядома, колькі часу яна праіснавала і ці брала ўдзел у тушэнні моцнага пажара ў 1902 г., падчас якога ў Браславе згарэла 9 сяліб. Можна толькі дакладна сцвярджаць, што ў 1904 г. ніякай пажарнай арганізацыі ў Браславе ўжо не было. Менавіта ў гэтым годзе тут паўстала добраахвотная пажарная дружына. Ёсць падставы меркаваць, што ініцыятарам яе стварэння стаў Станіслаў Нарбут. Ён быў абраны старшынёй праўлення і больш за 10 гадоў займаў гэту пасаду.

Магчыма, пажар 1902 г. у Браславе яшчэ раз засведчыў неабходнасць утрымання ў мястэчку дзейснай пажарнай арганізацыі. Да гэтага далучаліся і іншыя акалічнасці. У 1904 г. Браслаў быў уключаны ў спіс скучаных мястэчак Ковенскай губерні (пазней у яго ўвойдуць Опса, Друсвяты, Слабодка). Для такіх паселішчаў устанаўліваліся высокія стаўкі абавязковага страхавання, што было нявыгадна местачкоўцам. Добраахвотнае страхаванне, якое лепш кампенсавала страты, нанесеныя пажарам, дазвалялася ў тых мястэчках, дзе мелася пажарная дружына. Пажарная дружына ў Браславе пачала ствараліся вясной 1904 г. Быў напісаны статут, які быў зацверджаны губернскімі ўладамі. 5-га чэрвеня выносіцца наступная рэзалюцыя: Дзень 5-га чэрвеня стаў святочным для Браслаўскай дружыны і кожны год адзначаўся агульным сходам і народным гуляннем. Статут дружыны быў надрукаваны ў Дзвінску друкарскім спосабам у выглядзе прыгожай кніжачкі.


Уставъ
~~Браславской~~
ПОЖАРНОЙ ДРУЖИНЫ.

Двинскъ.
Типографія П. И. Сегала.
1904.

Раён дзеяння Браслаўскай дружыны быў вызначаны ў акружнасці 3 вярсты ад мястэчка. Дружына складалася з трох груп: трубнікаў, качальшчыкаў і лазальшчыкаў. Узначальваў яе браслаўскі мешчанін Абрам Кантар. Агульнае кіраванне здзяйсняла праўленне з 5-ці чалавек на чале з С.Нарбутам. Дружына мела ганаровага папячыцеля — графа Фелікса Плятэра, які аказваў дапамогу ў яе дзейнасці. Успомнім, што Ф.Плятэр быў даўнім прыяцелем С.Нарбута. Дзейнасць пажарнікаў фінансавалася за кошт сяброўскіх складак, добраахвотных ахвяраванняў, часткі збору з браслаўскай яўрэйскай грамады, а таксама даходаў ад дабрачынных спектакляў. У 1909 г. дружына налічвала 40 ахвотнікаў і 42-х ахвярадаўцаў. Пажарны абоз складаўся з 4-х пажарных труб на колавых ходах, 1-го багровага хода, 3-х лесвіц, 11-ці багроў, 10-ці сякер, 13-ці вёдзер, 10-ці бочак на колавых ходах, 2-х пілаў. У адным з дакументаў за 1909 г. адзначалася бліскучая праца дружыны, узорны парадак захоўвання інвентару, увогуле, сур'ёзны падыход браслаўскіх пажарнікаў да справы. З губернскіх сродкаў дружыне была выдаткавана даволі значная сума — 675 рублёў. За гэтыя грошы (з прыцягненнем уласных сродкаў) дружына набыла 4 новых бочкі на колавых ходах коштам 98 руб. і пабудавала новую пажарную пуню з каланчой коштам 755 руб. 51 кап.

У 1909 г. Браслаў наведаў чарговы пажар. Аб тым, як дзейнічала пажарная дружына, нам невядома, як невядомы і іншыя падрабязнасці аб працы дружыны на пажарах. На пажары 1909 г. у Браславе разам з мясцовай дзейнічала Бяльмонцкая

пажарная дружына. Яна была створана ў 1908 г. С.Нарбут увайшоў у склад дружыны ў якасці "соревнователя". Гэта дае падставу меркаваць, што лекар меў дачыненне і да яе арганізацыі. Да таго ж зноў згадаем пра сяброўскія адносіны паміж Нарбутам і ўладальнікам Бяльмонтаў графам Ф.Плятэрам. Магчыма, Бяльмонцкая дружына створана іх сумеснымі намаганнямі. У склад дружыны ўвайшла ўся адміністрацыя маёнтка, працаўнікі гаспадарак, сяляне некаторых бліжэйшых вёсак. Старшынёй праўлення стаў граф Ф.Плятэр, яго намеснікам — ксёндз Людвік Тышко. Узначаліў дружыну ад пачатку Вацлаў Кулікоўскі, упраўляючы мясцовай аптэкай, які да гэтага 8 гадоў быў сябрам Слуцкай пажарнай дружыны. Бяльмонцкая каманда складалася з 3-х груп: лазальшчыкаў, трубнікаў, качальшчыкаў. У 1913 г. згадваюцца яшчэ водазабеспячальшчыкі. У 1909 г. дружына налічвала 47 чалавек, у тым ліку 8 сялян з вёсак Азяраўцы, Ахрэмаўцы, Разета. На пажары звычайна выязджала 20-30 чалавек. Дружына паставіла сваёй мэтай тушыць пажары ў маёнтку і наваколлі ў 5 вёрст, а таксама выязджаць на пажары ў м.Браслаў (8 вёрст). Апошняя акалічнасць яшчэ раз засведчвае сувязь паміж двума дружынамі. Асноўным фундатарам Бяльмонцкай дружыны быў граф Ф.Плятэр — вельмі багаты чалавек. Ён аддаў пад дэпо вялізны хлеў на тэрыторыі фермы маёнтка, у выпадку пажара прадастаўляў 13 коней. Дружына змагла набыць інвентар, якога не было нават у Браславе. У 1913 г. яе маёмасць ацэньвалася ў 1604 рублі. З ліпеня 1908 г. да верасня 1909 г. дружына 7 разоў выязджала на пажары - у Браслаў, вёскі Азяраўцы, Мілашы, Мацешы, Гайлешы (дзве апошнія вёскі знаходзіліся ў складзе Віленскай губерні), маёнтак Бяльмонты.

Нягледзячы на недахоп звестак аб дзейнасці дружын у Браславе, Бяльмонтах, ёсць падстава меркаваць, што яны адыгралі значную ролю ў забеспячэнні Браслава і навакольных вёсак ад пажараў, зрабілі шмат добрага для людзей. Вялікая заслуга ў гэтым С.Нарбута. Ён і яго паплечнікі рабілі сваю справу добраахвотна, не дзеля грошай, ахвяруючы энергію і ўласны час на карысць грамадства. Далёка не кожны быў здольны на такую працу. У 1911 г. ва ўсёй Ковенскай губерні дзейнічала толькі 38 рознага роду пажарных арганізацый — яўна недастатковая колькасць. На Браслаўшчыне з 1907 г. арганізавана пажарная дружына ў Відзах, з 1908 г. — у Дрысвятах (па некаторых звестках апошняя так і не пачала дзейнічаць). Жыхарам большасці вёсак і мястэчак у выпадку пажара чакаць дапамогі не было ад каго.

Першая сусветная вайна перакрэсліла ўвесь плён стварэння супрацьпажарных арганізацый на Браслаўшчыне. У пачатку 20-х гадоў гэта праца аднавілася. У гэты час закладваюцца асновы прафесійнай пажарнай аховы. С.Нарбут не браў у гэтым непасрэднага ўдзелу. Магчыма, быў кансультантам, дарадчыкам. Тагачасныя пажарнікі шанавалі яго як заснавальніка і патрыярха пажарнай аховы Браслаўшчыны і абралі Нарбута сваім ганаровым старшынёй.

Друкуецца па: Браслаўскія сшыткі. Т.4. Браслаў. 2000. С. 94-95

# З ГІСТОРЫІ РОДУ КЛЁТТАЎ

На тэрыторыі нашага краю былі ўладанні прадстаўнікоў розных славутых родаў – Радзівілаў, Агінскіх, Мілашаў, Мірскіх, Сапегаў і інш. Яны пакінулі значны след не толькі ў гісторыі Мёршчыны, але і розных краін. Узгадаем аб менш вядомых землеўладальніках нашых мясцін – Клёттах.

Род Клёттаў адзін з самых старажытных, паходзіць з XII стагоддзя ад нямецкіх баронаў. Поўнасцю прозвішча фон Гайденфельд Клётт. Іх продкі ў складзе ордэна мечанасцаў вялі заваёву Прыбалтыкі. У кнігах гарадскога магістрата Рыгі прозвішча баронаў Клёттаў знаходзіцца ў ліку першай дзесяткі людзей, якія заснавалі гэты горад. Але ўжо ў XV ст. Клётты не заваёўнікі, а абаронцы Вялікага княства Літоўскага. За заслугі перад дзяржавай кароль польскі і вялікі князь літоўскі Аляксандр Ягелончык надае прывілей ім на ўладанні ў Пагосцкай воласці Браслаўскага павета. У 1500 годзе каралеўскі ратмістр Юры Клётт атрымлівае Пагост, а ў 1504 годзе Якаб Клётт – Навалаку, дзе па сямейнай хроніцы Артура Клётта складае ахвяраванне на будаўніцтва касцёла. Гэты касцёл быў спалены шведамі ў Паўночнай вайне.

Паступова Клётты набываюць маёнткі Укля, Любінова, Загор'е, Давяты, Руткоўшчына і інш.

Радавымі гнёздамі Клёттаў на Мёршчыне з'яўляюцца менавіта Навалака і Мёры, якія пасля вайны сталі называцца ў гонар іх былых уладальнікаў Клётавым Дваром. Апошняе з уладанняў атрымаў Эбенгарт Клётт у якасці пасага пасля таго, як ажаніўся на Марыяне Пуцята.

У сваіх маёнтках Клётты дбалі аб прыгонных. Да XX ст. іх сяляне з гордасцю казалі: «Мы клётаўскія, мы ніколі біты не былі». Для падданых былі ўведзены «сялянскія суды», якія вырашалі справы незалежна ад пана. У маёнтках Клётты пабудавалі капліцы, касцёл, уніяцкую царкву ў Навалацы.

У XVII-XVIII ст. Клётты займалі розныя пасады ў Браслаўскім павеце, былі суддзямі, маршалкамі соймікаў і г.д. Да пачатку XIX ст. род налічваў 15 нашчадкаў-мужчын, але менавіта за гэтае стагоддзе, як і наступнае XX-е, практычна вынішчаны гэты род па мужчынскай лініі. І невыпадкова. Менавіта ў гэты час вырашаўся лёс нашай Радзімы, а Клётты былі яе шчырымі абаронцамі. Чацвёра з Клёттаў прынялі ўдзел у паўстанні Касцюшкі, двое загінулі.

Вось трагедыя шляхецкага роду. Сын Фелікса Клётта Леапольд (1786-1857 гг.) з маёнтка Укля вучыўся ў Віленскім універсітэце, з 1807 года удзельнічаў у працы Адукацыйнай камісіі, якая займалася ўпарадкаваннем былых уладанняў езуітаў. У 1812 годзе добраахвотнікам пайшоў ваяваць у кавалерыйскі полк арміі Напалеона, які абяцаў аднаўленне Вялікага княства Літоўскага. Узяты ў палон рускімі войскамі, сасланы на Каўказ. Але ўжо ў пачатку паўстання 1830-1831 года знаходзіўся на Дзісеншчыне, камандаваў атрадам паўстанцаў, якія штурмавалі Дзісну, потым па задушэнні паўстання ў нашым краі ваяваў у чыне капітана ў корпусе Гелгуда з царскімі войскамі на Віленшчыне, далей у складзе корпуса Роланда на тэрыторыі Польшчы. Каб пазбегнуць палону, перайшоў на тэрыторыю Прусіі, дзе атрады паўстанцаў былі інтэрніраваны. Два гады правёў у зняволенні, у Расіі следчай камісіяй залічаны да другой катэгорыі злачынцаў. З 1834 года ў эміграцыі ў Францыі, дзе і памірае ў горадзе Камп'ене ў 1856 годзе не стварыўшы сям'ю.

Яшчэ больш трагічны лёс сям'і Клёттаў з маёнтка Залессе. У паўстанні ўдзельнічала пяць сыноў Аўгуста Клётта і Тэрэзы з Рудамінаў. На допыце Мураўёў-вешальнік спытаў старога бацьку, чаму шосты сын не ўдзельнічаў у паўстанні, мо яго пашкадавалі? Стары з годнасцю адказаў: «Ён быў хворы, а то таксама прыняў бы

ўдзел у змаганні». Дык вось, Мікалай Клётт нарадзіўся ў 1799 годзе ў Вільні, перад пачаткам паўстання быў пісарам Дзісенскага павятовага суда, камандаваў атрадам паўстанцаў, пасля паражэня паўстання на Дзісеншчыне – паручнік у корпусе Гелгуда-Роланда, інтэрніраваны ў Прусіі, эмігрыраваў у Францыю, прымаў удзел у рэвалюцыйных эмігранцкіх таварыствах "Трываласць і надзея», «Адзінства». Жыў у горадзе Труа, займаўся гандлем у тэкстыльнай прамысловасці, ажаніўся з француженкай, памёр у 1873 годзе.

Генрык Клётт нарадзіўся ў 1803 годзе, перад паўстаннем асэсар Дзісенскага павятовага суда, падпаручнік пад час паўстання 1831 года, потым ваяваў у корпусе Гелгуда-Роланда, інтэрніраваны ў Прусіі, эмігрыраваў у Францыю, прымаў удзел у франкфурцкай рэвалюцыйнай экспедыцыі, пазней працаваў майстрам па рамонту гадзіннікаў у Безансоне, удзельнічаў у эміграцыйных арганізацыях, памёр у Труа не стварыўшы сям'і.

Міхаіл Клётт нарадзіўся ў 1805 годзе, жыў з бацькамі ў Уклі, прыняў удзел у паўстанні 1831 года, паручнік 7-га палка Гелгуда-Роланда, эмігрыраваў у Францыю, прыняў актыўны ўдзел у польскім дэмакратычным таварыстве, быў абраны ў раду скарбовай камісіі таварыства, жыў у Парыжы, памёр у горадзе Клермон 1844 годзе, сям'ю не стварыў.

Казімір Клётт нарадзіўся ў маёнтку Залессе ў 1806 годзе. Удзельнік паўстання 1831 года ў чыне падпаручніка, эмігрыраваў у Францыю, працаваў на заводзе ў Авіньёне, удзельнік эміграцыйных рэвалюцыйных таварystваў, у 1857 годзе пераязжае ў Труа, дзе і памірае. Сям'і не стварыў. Ян Клётт нарадзіўся ў 1810 годзе, у 1827 пайшоў у войска, прыняў удзел у паўстанні падпаручнікам у складзе 7-га палка корпуса Гелгуда-Роланда. З 1832 года ў эміграцыі ў Францыі, у горадзе Авіньён падпісаў маніфест супраць Рады Авіньёна, выехаў да Безансона, дзе заснаваў фабрыку гадзіннікаў. Памёр у Жэневе ў 1877 годзе. Быў жанаты ў эміграцыі, меў сына Станіслава.

Ігнат Клётт нарадзіўся ў Навалацы ў 1810 годзе, сын Флярыяна. У паўстанні 1831 года на Дзісеншчыне ён быў ад'ютантам генерала Брахоцкага, потым падпаручнікам ваяваў у складзе корпуса Гелгуда-Роланда. Эміграваў у Францыю, працаваў на заводзе ў Безансоне. Удзельнік эміграцкіх паўстанцкіх арганізацый. Памёр у Камп'ене пасля 1868 года, сям'і не стварыў.

Рудольф Клётт нарадзіўся ў 1811 годзе, сын Аўгуста і Тэрэзы. З 1828 года на вайсковай службе ў Дынабургу, падхарунжы 1-га рэзервовага батальёна сапёраў рускай арміі. Пад час хваляванняў збег са службы, прымаў удзел у паўстанні, падпаручнік7-га палка корпуса Гелгуда-Роланда. Эмігрыраваў у Францыю, памёр у Камп'ене ў 1835 годзе, сям'і не стварыў.

Бенедыкт Клётт нарадзіўся ў маёнтку Навалака, па вызначэнню Мураўёва «ганарлівы паўстанец, сябра паўстанцкага камітэта, агент Лапацінскага , пасылаў загады». Залічаны да злачынцаў 3-й катэгорыі, зняволены ў Дынабургу, пазней вызвалены.

Станіслаў Клётт з маёнтка Мёры – падпаручнік паўстання, «даверaны Лапацінскага», залічаны да злачынцаў 2-й катэгорыі, зняволены ў Дынабургу, але здолеў даказаць сваю «лаяльнасць» царскім уладам, вызвалены. У паўстанні 1863 года з застаўшыхся на радзіме ізноў прымаюць удзел пяць Клёттаў. Пасля задушэння паўстання двое з паўстанцаў загінулі на катарзе ў Сібіры, трое эмігрыравалі ў Францыю, адзін нават удзельнічаў у Парыжскай камуне. Царскія ўлады канфіскуюць за удзел у паўстанні Бенедыкта, Арнольда, Альфонса, Альфрэда, Адольфа Клёттаў маёнткі Навалака, Загор'е, Укля. Навалака была пазней вернута ўладальнікам, а Загор'е і Укля прымусова прададзены. У 1882 годзе маёнтак Навалака належаў Міхаліне Клётт, якая мела сыноў Ільдэфонса і Мечыслава. Маёнтак Мёры, каб пазбегнуць канфіскацыі, перайшоў у другой палове 19 ст. да Аделі Стэцэвіч. Да нашчадкаў Клёттаў ён вярнуўся толькі ў 1931 годзе . Уладальнікам яго стаў Ян Клётт (1875-1932 гг.). Ён нарадзіўся ў Вільні, дзе скончыў гімназію. Вучыўся на правазнаўчым факультэце ў Варшаве. За ўдзел у рэвалюцыйных выступленнях зняволены ў сумнавядомай Варшаўскай цытадэлі, пазей высланы ў глыб Расіі. Закончыў адукацыю ў Казанскім універсітэце. Вярнуўшыся ў Вільню адкрывае адвакацкую кантору. Карыстаецца вялікай папулярнасцю. Пасля рэвалюцыі 1905 года пачынае прымаць актыўны ўдзел у навуковым і грамадскім жыцці Вільні. Быў адным з заснавальнікаў таварыства аматараў навук, арганізуе таварыства падтрымкі польскага тэатра, з яўляецца сябрам рэдакцыі «Газеты Віленьскай», сябрам аднаўленага таварыства Шубраўцаў. Пад час першай сусветнай вайны Ян Клётт узначальвае грамадзянскі камітэт дапамогі ахвярам вайны. Пасля захопу Вільні немцамі ў 1915 годзе знаходзіцца ў Дзісне, дзе пасля Лютаўскай рэвалюцыі прызначаны Віленскім губернатарам з месцазнаходжаннем у Дзісне. Пасля бальшавіцкай рэвалюцыі ўцякае з Дзісны ў Варшаву, вяртаецца ў Вільню ў 1919 годзе, дзе прымае ўдзел у арганізацыі грамадзянскага кіравання усходніх зямель. Пасля вайны працуе натарыўсам у акруговым судзе Вільні. Праводзіць шырокую грамадскую дзейнасць, аказвае бясплатную дапамогу культурным і грамадскім арганізацыям у прававых пытаннях. Адпачывае заўсёды ў маёнтку Мёры, дзе бясплатна дапамагае мясцовым жыхарам у розных юрыдычных пытанннях. Быў старшынёй галоўнай судовай камісіі Саюза зямян, старшынёй Аб'яднання натарыусаў. Пасля цяжкай хваробы памірае ў сваім маёнтку Мёры ў 1932 годзе. Пахаваны ў мястэчку Мёры на могілках. Ян Клётт быў жанаты на Гелене з роду Кісель, з яго шлюбу засталася адна дачка Яніна (1906-1994 гг.). Дзяцінства яе праходзіла у Мёрах і Вільні, дзе яна закончыла сярэднюю школу пры манастыры назарыцянах, пазней вучылася на гуманістычным факультэце Віленскага ўніверсітэта. У1928 годзе выходзіць замуж за Дабравольскага, ад яго мае двух блізнятаў: сына Казіміра і дачку Марыю, нарадзіўшыхся ў 1929 годзе. Пасля смерці бацькі займаецца гаспадаркай ў маёнтку Мёры. Выкарыстоўвае яго маляўнічае становішча на беразе возера, будуе невялікія кэмпінгі для турыстаў і адпачваючых. Справа была шырока пастаўлена, на 1940 год усе месцы былі папярэдне закуплены. Пад час фашыскай акупацыі пакідае сям'ю ў Вільні, вяртаецца ў маёнтак. Немцы пазбаўляюць права ўласнасці, прызначаюць яе толькі ўпраўляючай. У 1942 годзе пад час правядзення Арміяй Краёвай аперацыі «вахляж»(веер), у маёнтку створана адна з баз акаўцаў. Тут з 1941 года хаваўся віцэкамісар вольнага горада Гданьска Тадэўш Пяркоўскі, які пазней выехаў да свайго сваяка Юзэфа Лапацінскага, быў разам з ім і застрэлены.У 1943 годзе Яніна развітваецца з Мёрамі назаўсёды. Пасля 1945 года жыве ў Варшаве, дзе працуе да пенсіі ў розных дзяржаўных установах Польшчы. Дачка Марыя стала эканамістам, выйшла замуж за доктара Палуцкага. Сын Казімір вучыўся сацыялогіі і паланістыцы. Быў дзысідэнтам. Браў актыўны ўдзел ў дзейнасці «Салідарнасці». З'яўляўся арганізатарам і намеснікам старшыні таварыства аматараў Вільні і Віленскай зямлі. З 1989 года быў сакратаром камісіі сената па справах эміграцыі і палякаў за граніцай. Памёр у 1995 годзе. Апошні з Клёттаў, які валодаў маёнткам Навалака, Артур у 1940 годзе быў вывезены ў Сібір, дзе ўступіў у Армію Андэрса, ваяваў з фашыстамі ў Афрыцы і Італіі. Пасля вайны жыў у Францыі непадалёку ад славутага курорта Ніцца, памёр у пачатку 80-х 20ст, сям'і не стварыў.

Калі перад другой сусветнай вайной яшчэ пражывала сямёра нашчадкаў Клёттаў па мужчынскай лініі, то ў пачатку XXI стагоддзя застаўся толькі адзін.

*Вітаўт Ермалёнак, настаўнік СШ №3 г.Мёры*

*Старадаўняй*
*Літоўскай*
*Пагоні*
*не разьбіць,*
*не спыніць,*
*не*
*стрымаць!!!*

*Максім*
*Багдановіч*



*Экспедыцыі, пошукі, цікавыя знаходкі*

# СТАРАВЕРЫ БУЛАВІШАК: УЧОРА І СЁННЯ

**Марозны студзеньскі дзень 2003 года. Разам з карэспандэнтам беларускай службы радыё "Свабода" Ягорам Маёрчыкам накіроўваемся ў вёску Булавішкі, што на беразе вялізнага возера Снуды. Тут жывуць стараверы. Ягора цікавіць тэма "Стараверы Браслаўшчыны" і ён, жыхар Мінска, спачатку звярнуўся за кансультацыяй у музей. Старверскіх вёсак на Браслаўшчыне шмат. Чаму выбралі Булавішкі? Заўсёды цікава параўнаць сучасны стан з мінулым. У архіве музея ёсць выпіска публікацыі з Ковенскай газеты "Северо-Западный телеграф" ад 3 студзеня 1910 года, цалкам прысвечаной староверам Булавішак. У той час гэта была вёска Краснагорскай воласці Новааляксандраўскага павета са 145 жыхарамі.**

**Давайце азнаёмімся з дадзенай публікацыяй.**

* * *

Деревня Буловишки (Новоалександровский уезд).

В восточной части Ковенской губернии на берегу большого озера Снуда расположена деревня Буловишки, представляющая много интересного в бытовом отношении. Населена она исключительно великоруссами-старообрядцами федосеевского толка. Возникла эта деревня очень давно. Если верить заявлениям местных жителей, то первые выходцы из нынешней Тверской губернии поселились здесь во время царствования Алексея Михайловича, когда в Московском государстве начались преследования старообрядцев. В 60-х годах прошлого столетия здесь уже было много переселенцев старообрядцев. Люстрационная комиссия, наделявшая крестьян земельными участками, отвела крестьянам д.Буловишки 7 земельных наделов по числу старообрядческих семей. Каждый надел состоит из 30-40 десятин земли. В настоящее время в д.Буловишки имеется 23 семейства, живущие на той же земле. Первые выходцы из Центральной Росии, поселившись среди огромных лесов, на берегу большого рыбного озера, занимались исключительно звериной и рыбной ловлей и промыслы эти вполне обеспечивали их существование. Жили они совершенно замкнуто, не сливаясь с местным белорусским населением католического вероисповедания. В течение продолжительного периода времени некоторые старообрядческие семейства уходили из Буловишек в соседние места и селились преимущественно по берегам озера, чтобы не расстаться со своим прежним рыбным промыслом. Теперь на небольшом пространстве вокруг группы соединённых протоками озёр Снуда, Струста и Войса живёт до 300 старообрядческих семейств. Сравнительно значительные по своим размерам земельные участки мало интересуют старообрядцев в смысле материального обеспечения. Они по-прежнему главным образом занимаются рыболовством и отправляются на заработки в Ригу и в другие соседние города. Однако рыбный промысел даёт с каждым годом всё меньше и меньше дохода. Объясняется это тем, что количество рыбы в озере в последнее время сильно уменьшилось, и во-вторых, что озёра составляют частную собственность отдельных владельцев и сдаются в аренду. Без разрешения арендатора местные крестьяне не имеют права ловить рыбу. Арендаторы эксплуатируют озёра двояким способом: частью сами, при помощи крупных сетей и наёмных лиц, а главным образом получая прибыли от покупки рыбы у крестьян, дозволяя им самим ловить рыбу в арендуемых озёрах каким угодно способом, но с тем условием, что вся пойманная рыба будет продаваться арендатору по определённой таксе, а именно: крупная рыба (лещ, судак, угорь, щука) по 2 руб. 40 коп. за пуд, средняя рыба по 1 руб. а мелкая от 40 до 60 коп. за пуд. При такой страшной дешевизне рыбы крестьяне мало могут заработать, а между тем прибыль от сельского хозяйства бывает, так сказать, «замаскированной» и не поддаётся точному учёту. Поэтому-то с наступлением весны, когда бывает наибольший улов рыбы, старообрядцы устремляются на озёра, а обработка полей поручается старикам и женщинам. С наступлением зимы рыбаки отправляются в отхожие промыслы, а домашнее хозяйство опять поручается тем же лицам. Конечно, при таких условиях хлебопашество поставлено у них плохо. Однако вопрос о выделении на хутора весьма интересует крестьян нашей деревни, так как они уверены, что хутор гораздо легче сдать в аренду за сравнительно высокую цену соседу белорусу. В нравственном и духовном отношении жители д.Буловишки стоят выше, чем жители соседних старообрядческих деревень. Здесь уже давно существует молитвенный дом и все



старообрядцы окрестных деревень составляли прежде один церковный приход. Но недавно старообрядцы нашей деревни согласились принять и вести метрические книги и составить одну общину. Это не понравилось остальным старообрядцам, которые отделились от Буловишского прихода и составили новый приход, построив молитвенный дом особо в д.Лавниках. Прихожане нового молитвенного дома по-прежнему считают большим грехом записывать новорожденных детей в метрические книги, находя это большим отступлением от старой веры. Религиозного обряда при бракосочетании не

признают. Не нравится им ещё и то, что жители Буловишек имеют у себя народную казённую школу, где обучались вместе с их детьми и дети иноверцев. Многие школьные порядки их положительно возмущают: то обстоятельство, что учитель во время уроков пения пользуется скрипкой, крайне смущает их, так как по их мнению пение и музыка в одно и то же время есть еретический обычай, сведения сообщение учителем относительно движения Земли вокруг Солнца они считают несогласным со Священным Писанием, а потому еретическим. За всем тем жители д.Буловишки отличаются трезвостью и честностью. Достойно примечания, что старшина Красногорской волости происходит из местных старообрядцев и что это уже не первый случай выборов старообрядца на означенную должность, хотя число жителей белорусов-католиков в пять раз превышает число старообрядцев...

* * *

***Вось такая гістарычна-этнаграфічная замалёўка. Яшчэ ў музеі знайшліся звесткі, што ў 1931 годзе ў Булавішках налічвалася 27 двароў і 158 жыхароў.***

***Булавішкі напачатку 2003 года – гэта 12 жылых хат, у якіх задзве налічваецца 20 чалавек. Старыя, па большай частцы, занядбалыя сялібы. Насельніцтва – амаль выключна пенсіянеры. Напэўна, вёска гэта ніколі не выглядзела занадта заможна, але, відаць, ніколі не выглядала так безнадзейна.***

***Жыхары Булавішак жывуць такімі ж клопатамі, як і іншыя вяскоўцы Браслаўшчыны: папросту выжываюць. Ці захаваліся тут асаблівыя звычаі, прыкметы этнічнай адрознасці ад навакольнага насельніцтва? Суразмоўцы не маглі адказаць на гэтае пытанне. Асноўная адрознасць – мова, якую не зблытаеш з мовай каталіцкіх вёсак, ды рэлігія. Ужо даўно забыты забароны на ўжыванне спіртных напояў і тытуню. На пытанне, ці ўжываюць стараверы Булавішак гарэлку, чулі толькі: "А за што?" Былі б грошы, значыць, пілі б... Пенсіянеры жывуць з невялікіх пенсій, падтрымліваюць з іх дзяцей і гатовы маліцца на любога, хто забяспечвае пенсіяй. На ўсю вёску 4 маладых хлопцы. У калгасе працы няма зімой, ды і заробкі смешныя. Дапамагае возера: і сабе рыбкі наловіш, і нешта прадаць можна. Снуды – як і раней – выручае!..***

***Няўжо не знойдзем нічога адметнага, самабытнага? Апошні суразмоўца – Матрона Усцінава ("самы адукаваны чалавек у вёсцы: столькі гадоў у школу хадзіла!."), звычайная, з выгляду яшчэ не старая, рухлявая жанчына. А як яна заспявала! Прыгожыя, складаныя распевы – у вёсцы так умее спяваць толькі яна адна. Тыя спевы нібыта масток ад сучаснасці ў сівую даўніну. Так спявалі далёкія продкі пяюхі, што з'явіліся на беразе возера Снуды некалькі стагоддзяў таму. Ці пяройдзе адмысловае ўмельства да каго яшчэ, жанчына не ведае, – пакуль ахвочых вучыцца няма. Спадарыня Матрона даглядае малельны дом і не адмовіла ў нашай просьбе пазнаёміцца з храмам старавераў. Бліжэй да возера, у нізкім месцы (калі будавалі, набліжаўся фронт першай сусветнай вайны і таму малельную маскіравалі), стаіць з выгляду вясковая хата, упрыгожаная званіцай. Гэта і ёсць маліто́ўны дом. Унутры ёсць маленькая зала ("келля"), дзе збіраюцца халадамі, і асноўная зала. Прыгожы багаты іканапіс некалькі гадоў таму быў абрабаваны. Зараз адноўлены, але такіх прыгожых абразоў ужо не знайшлі. Яшчэ адносна нядаўна малельная бывала перапоўненай. Зараз жа вернікаў няшмат – стала менш людзей, некаторыя стараверы з навакольных вёсак наведваюць малельны дом у Браславе. Свой, булавішскі настаўнік памёр колькі гадоў таму, зараз набажэнствы праводзіць настаўнік з-пад вёскі Юраны. У вочы кінулася адна дэталь аздаблення інтэр'ера: пры ўваходзе ў вялікую залу вісіць абраз Багародзіцы, які ўяўляе сабой рэпрадукцыю карціны нейкага заходнееўрапейскага мастака (у ніжняй частцы нейкі надпіс лацініцай) – дэталь неверагодная для храмаў старавераў ранняга перыяда.***



**Матрона Усцінава**

***Ужо ў музеі, успамінаючы паездку ў Булавішкі, задаліся пытаннем: якая будучыня ў старавераў? Хутчэй за ўсё, такія маленькія калоніі вырачаны на выміранне, аднак, яшчэ можна паспрабаваць выратаваць элементы культуры старавераў. Для гэтага патрэбна разуменне і падтрымка дзяржавы, сумесныя намаганні навукоўцаў, работнікаў культуры.***

Кастусь Шыдлоўскі

---

*Трагічныя старонкі мінулага ...*

# РЭХА КАТЫНСКАЙ ТРАГЕДЫІ

Пры знаёмстве з бібліятэкай польскага "Промені" у Даўгаўпілсе мне на вочы трапіла некалькі кніг па гісторыі, дасланых з Польшчы. Адна з іх называлася "Спісак катыньскі ваеннапалонных лагероў Казельска, Осташкова, Старабельска". Аўтар – Адам Масжыньскі – адзін, цудам ацалелы вязень. Па розных дакументальных крыніцах ён склаў спіс прозвішчаў афіцэраў, што загінулі ў савецкай Расіі. Ёсць матэрыялы з раскопак магіл у Катыні, спісы больш за 10 тысяч асоб. Шмат прозвішч без ніякіх звестак.

Самае сумнае, што сярод мноства ахвяр – шмат выхадцаў з Заходніх зямель Беларусі. Ёсць і з Браслаўшчыны: Данброўскі Станіслаў, сержант, 1905 года нараджэння, Браслаў; Шостак Станіслаў, падпаручнік, нарадзіўся 2.12.1906 г., настаўнік з вёскі Жукі Горныя, пошта Германавічы. Пры целе знойдзена ашчадная кніжка, службовае пасведчанне, ліст разлікаў зарплаты.

Сярод неапазнаных цел, пад нумарам АМ 2890, пазначана: "у мундзіры знойдзены медальён і тэлеграма з наступным тэкстам: "Здаровая, жыву ў Шаркаўшчыне. Будзь спакойны – Марыя". Сярод загінуўшых, акрамя ваенных, шмат інжынераў, асаднікаў, памежнікаў, чыноўнікаў, ксяндзоў, капеланаў розных веравызнанняў, ёсць нават артысты.

Мікола Паўловіч, краязнавец, г.Даўгаўпілс

## *Цікавая знаходка*

*Неяк знаёмая папрасіла мяне, як будаўніка, прыглядзець дзе-небудзь у Даўгаўпілсе недарагі прыватны дом, каб яго набыць. Пабываўшы на Грыве, ля стараверскай царквы я прыглядзеў дом з разбітымі вокнамі, але яшчэ даволі ладны на від. Дзверы былі расчынены, усё патрушчана, расцягнута. На падлозе заўважыў разламаную рамку са старымі фотаздымкамі. На большасці была выява моцнага мужчыны ў добрым касцюме, з вялікім ланцугом на жываце, відаць, залатым. Здымкі зроблены ў Амерыцы. Сярод іх я напаткаў здымак салдата. На шапцы бачны герб "Пагоня", на рэмяні — бляха з надпісам "Got mit uns". На адвароце фотаздымку надпіс: "В память моей службы в Б.О.Б. 3 рота. Белорусский особый батальон". Дакладна вядома, што Беларускі асобны батальён у ліпені 1919 г. ваймаў Браслаў. Магчыма гэта здымак аднаго з салдат таго часу. Па крыніцах значыцца, што салдаты ў Беларускім*



*батальёне насілі нямецкую форму з беларускімі нацыянальнымі сімваламі. Вядома, што ў батальёне было якраз 3 роты. Такім чынам, хутчэй за ўсё перад намі рэдкі фотаздымак байца Беларускага батальёна.*

Мікола Паўловіч, Даўгаўпілс



**❄ БРАСЛАЎШЧЫНА ЗІМОЙ ❄**

❄ ❄ ❄ ❄ ❄ ❄ ❄ ❄ ❄ ❄ ❄ ❄ ❄ ❄ ❄ ❄ ❄ ❄ ❄ ❄ ❄ ❄ ❄

Цікавае паведамленне надрукавана ў снежаньскім калядным нумары бюлетэня "List do Brasławian", які выдаецца ў Польшчы для выхадцаў з Браслаўшчыны. Прадстаўнікі таварыства Браславян перадалі Папе Яну Паўлу II зборнік вершаў самадзейнай паэткі Юзэфы Міхневіч «Moja Brasławszczyzna...». Атрымана ўдзячнасць з Ватыкана з Апостальскім Благаслаўленнем Яна Паўла II.

Спадарыня Юзэфа Міхневіч нараджэнка вёскі Шалтэні (нарадзілася ў 1919 г.), доўгі час жыла ў в.Муражы, зараз жыве ў Браславе. Піша вершы з маладых гадоў. Яе творчасці быў прысвечаны адзін з дакладаў на канферэнцыі "Браслаўскія чытанні". Вершы Ю.Міхневіч друкаваліся ў некаторых выданнях Браслаўскага краязнаўчага таварыства. Юзэфа Міхневіч аказала вялікую дапамогу музею і таварыству ў краязнаўчых пошуках.

* * *

"Беларускі гістарычны часопіс" (№5 за 2002 г., с.36-38) змясціў спіс лётчыкаў Брытанскіх каралеўскіх ваенна-паветраных сіл, выхадцаў з Беларусі, якія загінулі ў 1939-1945 гадах. У спісе значыцца некалькі нараджэнцаў з сучаснай Браслаўшчыны і Мёршчыны:

**Анатоль Папкоў, нарадзіўся 25 снежня 1918 г. у Браславе, капрал, загінуў 13 сакавіка 1943 г.**

**Юры Пятроў, нарадзіўся 21 жніўня 1914 г. у Дзісне, старшы стралок, загінуў 27 сакавіка 1942 г.**

**Леапольд Янчэўскі, нарадзіўся 29 верасня 1918 г. у Дзісне, капрал, загінуў 10 лістапада 1944 г. у Англіі.**

« ПАВЕТ » DISTRICTUS

ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ



Наклад 299 асобнікаў.

Распаўсюджваецца бясплатна.

Выдаецца з ліпеня 2001 г.

Адказны за выпуск: Кастусь Шыдлоўскі
г.Браслаў, вул.Кастрычніка 11-10, тэл. 21-4-28
E-mail: braslavmc@vitebsk.unibel.by

Над нумарам працавалі: Кастусь Шыдлоўскі, Аляксандр Панцялейка, Валеры Буко

Выдадзена пры падтрымцы Віцебскага адзялення ГА «Фонд імя Льва Сапегі»